ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 21 чэрвеня 2000г.

№ 47 (8116)

*Раённая грамадска-палітычная газета*

*Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР*

Цана 24 руб.

## ПРЭС-ЦЭНТР РАЙВЫКАНКАМА ІНФАРМУЕ

На планёрцы ў панядзелак былі абмеркаваны пытанні, узнятыя ў ходзе абласной селектарнай нарады, якая адбылася ў суботу, 17 чэрвеня. Аб'яўлена надзвычайнае становішча па нарыхтоўцы кармоў, якую трэба завяршыць да 1 ліпеня.

У ходзе планёркі канстатавалася, што прамысловым прадпрыемствам, арганізацыям неабходна аказаць дапамогу тэхнікай, людзьмі, грашовымі сродкамі ў нарыхтоўцы кармоў. У бліжэйшы час запланавана правядзенне пасяджэння раённага штаба па нарыхтоўцы кармоў.

Было таксама ўзнята пытанне разлікаў масла280бчага завода з насельніцтвам за здадзенае малако. Адзначалася, што ўсе сродкі павінны накіроўвацца прадпрыемствам у першую чаргу на разлікі са здатчыкамі сыравіны.

На планёрцы выступіў намеснік старшыні райвыканкама Р.Н.Дайнека з інфармацыяй аб ходзе перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання. Ён адзначыў, што кіраўнікамі працоўных калектываў праводзіцца недастатковая работа ў гэтым напрамку: не ўсе дакументы яшчэ здадзены, — папярэдзіў аб адказнасці.

Р.Н.Дайнека таксама паведаміў аб склаўшымся складаным становішчы з будаўніцтвам жылога дома ЖБК "Надзея". Члены кааператыву несвоечасова пералічваюць плацяжы, гэта можа прывесці да таго, што з 1 ліпеня бягучага года будаўніцтва прыдзецца спыніць, бо падрадная арганізацыя ПМК-255 не ў стане разлічыцца за набытыя будматэрыялы, своечасова выплаціць падаткі і зарплату, праавансаваць выраб камплекта "сталяркі" і сантэхнічных загатовак для дома. Запазычанасць членаў ЖБК "Надзея" падраднай арганізацыі склала на гэты дзень 6,7 мільёна рублёў.

## ШТАБ "АБІТУРЫЕНТ"

створаны пры райкаме ГА "БПСМ": спецыяльная камісія будзе сачыць за ходам уступных экзаменаў у Жыліцкім сельгаскаледжы, прыёмам навучэнцаў у ПТВ-220. Усе абітурыенты ў выпадку ўзнікнення спрэчных пытанняў могуць звяртацца ў штаб, які працуе па адрасу: г.п.Кіраўск, вул.Савецкая, 28, тэлефон 21-7-58. Аналагічныя штабы створаны ў абласных і рэспубліканскіх цэнтрах. Пры неабходнасці выпускнікі нашых школ могуць звяртацца туды (дадзеныя аб штабах — у прыёмных камісіях навучальных устаноў).

**Віктар КОТАЎ,**
**старшыня камісіі штаба "Абітурыент".**

## НА ПЕРШЫМ ПЛАНЕ — СЕНА

*У калгасе "Радзіма" травы першым укосам займаюць 1600 гектараў, з якіх палавіну складаюць заліўныя лугі ў пойме Бярэзіны. Што і казаць, плошчы ўнушальныя. Зараз на сенажацях шчыруюць пяць касілак, работа якіх арганізавана ў дзве змены: з 5 гадзін да 13 і з 14 да канца светлавога дня. Учора завод "Аграмаш" павінен быў адгрузіць калгасу яшчэ дзве касілкі і граблі, так што з іх уводам тэмпы на касавіцы значна ўзрастуць. Не адчуваецца недахопу ў механізатарскіх кадрах. Двухзменную работу касілак, напрыклад, забяспечваюць вадзіцелі, якія на перыяд зялёнага жніва перасelі з аўтамабіляў на самаходныя комплексы.*

*Падрыхтавалі да касавіцы, як адзначыў у гутарцы з намі старшыня калгаса Аляксандр Уладзіміравіч Вербінаў, і здрабняльнікі зялёнай масы. Але яны пакуль што не задзейнічаны — у "Радзіме" толькі нарыхтоўваюць сена. Распачынаць сянажную траншэю няма сэнсу: травы не ўрадзілі. Сёлета на заліўных лугах, дзе ў папярэднія гады былі пераўвільготненыя ўчасткі, без праблем працуюць касілкі. Дарэчы, на такіх вось няўдобіцах і травастой выдатны. Сена з поймы і культурных сенажацей звозіцца пад павеці. Два аўтапаязды, адзін з якіх прыкамандзіраваны з райсельгасхіміі, за рэйс бяруць па трыццаць рулонаў.*

*— Крыўдна, але нічога не зробіш, — працягвае дзяліцца з намі сваімі думкамі Аляксандр Уладзіміравіч, — пагода зрабіла сваё. Калі было такое, каб з 26 гектараў шматгадовых траў насушылі ўсяго 7,5 тоны сена. Вось і атрым-ліваецца, што плошча ўбрана, а пад павецямі месца яшчэ шмат. Спадзяемся на кукурузу, якой пасеялі 240 гектараў, на атаву, караняплоды. Буракі мы прапалолі, падкармілі азотам. Віды на ўраджай добрыя. Маецца ў рэзерве і 200 гектараў "зялёнкі", якую сеялі на падкормку. Можа так здарыцца, што яе выкарыстаем на сянаж.*

*Трымаюць пад кантролем у калгасе і прадуктыўнасць дойнага статка. "Радзіма" — адна з нямногіх гаспадарак, якая плюсуе па малаку ў параўнанні з адпаведны і перыядам мінулага года. Праўда, сутачныя надоі не такія ўжо высокія, каб можна было адпачываць на лаўрах. Заа- і ветслужбам ёсць над чым працаваць. І трэба аддаць належнае, у гаспадарцы робіцца многае, каб спаўна выкарыстаць перавагі летне-пашавага перыяду. Тут зараз на пашах знаходзіцца ўся жывёла, апрача маладняку. Пасвяць нават адкармачнае пагалоўе, і гэта дазваляе эканоміць дызельнае паліва, не трэба біць тэхніку на нарыхтоўку падкормкі, вызваляюцца рабочыя рукі. У бліжэйшыя дні ў гаспадарцы мяркуюць выгнаць на пашу гурт бычкоў і цялушак з груп дарошчвання. Падкормка будзе завозіцца толькі дойнаму статку.*

*Распрацаваны меры маральнага і матэрыяльнага заахвочвання, прадугледжана натуральная аплата збожжам на ўсіх відах работ. Стымулюе і тое, што ў гаспадарцы выдалі заработную плату за красавік, усе занятыя на нарыхтоўцы кармоў забяспечваюцца гарачым харчаваннем. У гонар лепшых на зялёным жніве ўзнімаецца сцяг.*



**На здымку: *М.Ц.Craigановіч, М.П.Казека, І.В.Казека — адны з лепшых на нарыхтоўцы кармоў.***

**Пятро СУРЫНОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

# ПА НАДЗЁННЫХ ПРАБЛЕМАХ АГРАПРАМЫСЛОВАГА КОМПЛЕКСУ

У суботу, 17 чэрвеня г.г., старшыня аблвыканкама М.У.Дражын правёў абласную селектарную нараду. Яе неабходнасць, адзначыў ён, выклікана шэрагам прынцыповых заўваг, выказаных у ходзе нядаўняй размовы ў Прэзідэнта краіны А.Р.Лукашэнкі, у якой прымаў удзел і наш губернатар. Размова тычылася становішча спраў у аграпрамысловым комплексе, асаблівы акцэнт быў зроблены на ходзе нарыхтоўкі кармоў, падрыхтоўкі да ўборкі ўраджаю.

З інфармацыяй аб ходзе нарыхтоўкі кармоў у гаспадарках вобласці, бягучых справах у жывёлагадоўлі выступіў на селектарнай нарадзе намеснік старшыні аблвыканкама, начальнік абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання П.А.Кандратаў. Ён адзначыў выяўленыя праверкамі ў многіх калгасах, саўгасах арганізацыйна-тэхнічныя і тэхналагічныя недахопы ў кампаніі па нарыхтоўцы кармоў. Сярод гаспадарак вобласці, якія маюць сёння нізкія надоі на карову, назваў нашы калгасы імя Ільіча і імя Чапаева.

Нізкая на сённяшні дзень, заўважыў прамоўца, гатоўнасць тэхнікі да ўборкі ўраджаю. У цэлым па вобласці на гэты дзень гатовы да ўборачнай кампаніі толькі 51 працэнт зерне ўборачных камбайнаў, што значна ніжэй запланаванага. Вялікай застаецца запазычанасць па зарплаце ў аграрным сектары Магілёўшчыны — больш 1 мільярда рублёў.

М.У.Дражын далей канстатаваў, што прычыну маючыхся ў аграпрамысловым комплексе недахопаў бачыць у нізкай асабістай дысцыпліне, неразваротлівасці кіраўнікоў, спецыялістаў, нізкай тэхналагічнай дысцыпліне. Губернатар давёў да ведама ўдзельнікаў селектарнай нарады рашэнне аблвыканкама аб усеагульнай мабілізацыі на нарыхтоўку кармоў: з тым, каб да 1 ліпеня завяршыць уборку шматгадовых траў, да 15-га ліпеня — натуральных кармавых угоддзяў. Кожны працуючы гараджанін павінен нарыхтаваць не менш чым па 300 кілаграмаў сена і 1,5 тоны зялёнай масы. Асаблівую ўвагу старшыня абласной "вертыкалі" заклікаў надаць забеспячэнню кармамі прыватнага сектара.

Да 1 ліпеня, заўважыў ён, на лінейцы гатоўнасці павінны стаяць усе збожжаўборачныя камбайны, да 10 ліпеня паўсюдна неабходна правесці агляды гатоўнасці да жніва.

Справаздачы аб ходзе нарыхтоўкі кармоў, падрыхтоўкі да ўборачнай кампаніі на селектарнай нарадзе трымалі ўсе кіраўнікі раёнаў вобласці. Аб становішчы спраў у нашым раёне паведаміў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання С.У.Свірко. Ён запэўніў, што ўсе намаганні працаўнікоў вёскі скіраваны на тое, каб пры наяўным скудным травастоі хутчэй убраць травы першым укосам і атрымаць больш паўнацэнны другі. Раён адчувае фінансавыя цяжкасці: не хапае сродкаў на набыццё запчастак для рамонту збожжаўборачных камбайнаў, выплату зарплаты (запазычанасць па 10 гаспадарках на гэты дзень складала 45 мільёнаў рублёў), паліва.

Пасля селектарнай адбылася раённая нарада па надзённых пытаннях. С.У.Свірко давёў да ведама прысутных, што за ўпушчэнні ў вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі, грубыя парушэнні тэхналогіі нарыхтоўкі кармоў вызвалены з займаемай пасады старшыня калгаса імя Чапаева І.І.Дарафей. Абавязкі старшыні гаспадаркі ўскладзены на энергетыка калгаса М.П.Русецкага.

Аб тым, як у гаспадарках раёна вядзецца догляд за пасевамі, паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання па раслінаводству М.Б.Пад'ялоўскі. Вялікая ўвага сёлета, адзначыў ён, надаецца кукурузе. Яе пасеяна 3 тысячы гектараў. У шэрагу гаспадарак пасевы прапалоты, дагледжаны, у некаторых гэтая работа не праведзена. Неабходна ў бліжэйшы час правесці міжрадковую апрацоўку пасеваў кукурузы, цвёрдую і вадкую падкормку.

Спыніўся М.Б.Пад'ялоўскі на ходзе нарыхтоўкі кармоў, заўважыў, што стаіць задача нарыхтаваць хаця б па 6,5 кармавых адзінкі. Указаў на тое, што не распачаты падкос насеннікаў канюшыны ў калгасах імя Кірава, імя Чапаева, "Беларусь".

За мноствам работ, заўважыў прамоўца, не трэба забываць аб апрацоўцы бульбяных палеткаў супраць каларадскага жука, неабходна набываць у дастатковай колькасці сродкі барацьбы з імі.

М.Б.Пад'ялоўскі закрануў пытанне неабходнасці стварэння міжгаспадарчых атрадаў для правядзення работ па нарыхтоўцы кармоў: маўляў, кіраўнікі гаспадарак павінны дасягнуць згоды ў гэтым.

Далейшая размова тычылася праблем захаванасці маладняку буйной рагатай жывёлы ў гаспадарках раёна. Яна была абвешчана як пасяджэнне савета ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання.

Аб бягучых справах у жывёлагадоўчай галіне далажыў намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання па жывёлагадоўлі Д.М.Хаброў. Ён прывёў дадзеныя аб ходзе аднаўлення ў калгасах і саўгасах колькасці пагалоўя. Згодна даведзенага задання, трэба мець 22900 галоў буйной рагатай жывёлы, 8100 кароў, 12400 — свіней. У чэрвені атрымана каля 800 галоў цялят, каля 100 галоў маладняку буйной рагатай жывёлы закуплена ў насельніцтва. Не выканалі заданні калгасы імя Чапаева, імя Кірава, імя Ільіча, СЗАТ "Бераснёўскае". Дагавораў кантрактацыі заключана на 74,9 працэнта. Дрэнна ў гэтым напрамку працуюць у калгасах імя Кірава, імя Чапаева, "Камуніст", СЗАТ "Бераснёўскае" і імя Ільіча.

Непрадукцыйнае выбыццё склала 91 галаву да ўзроўню 1999 года. "Пастараліся" ў гэтым напрамку ў калгасах імя Кірава, "Камуніст", імя Чапаева, імя Ільіча. Сумнае становішча спраў у жывёлагадоўчай галіне ў калгасе імя Калініна.

Галоўны ветурач раёна М.С.Маслаў пазнаёміў прысутных з вынікамі праверак на прадмет таго, як у гаспадарках ідзе нарыхтоўка сенажу. У калгасе "Беларусь", напрыклад, на трамбоўцы сянажнай ямы быў брудны трактар, да таго ж няспраўны: у масу трапляла дызельнае масла. У калгасе "Камуніст" трамбоўка ішла ўначы, трактар таксама быў брудны. Удзень тут трамбоўка не вялася, а толькі падавалася зялёная маса, у той час у закладзенага сенажу ўжо была тэмпература 54 градусы. Калі няма масы, зазначыў выступаючы, трэба спыняць закладку ямы і закрываць яе.

Не ўсюды, як заўважыў М.С.Маслаў, на закладцы ям вядуцца журналы.

За недахопы ў арганізацыі нарыхтоўкі кармоў шэрагу кіраўнікоў гаспадарак саветам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання аб'яўлены заўвагі.

М.С.Маслаў далей адзначыў канкрэтныя ўпушчэнні ў рабоце па захаванасці маладняку буйной рагатай жывёлы ў калгасах імя Калініна і "Камуніст". Старшыні калгаса імя Калініна В.С.Стальмацкаму аб'яўлена вымова. Праўленню гаспадаркі рэкамендавана разгледзець пытанне аб матэрыяльнай адказнасці старшыні.

Паколькі кіраўнік калгаса "Камуніст" А.С.Суглобаў нязначны час знаходзіцца на гэтай пасадзе, рэкамендавана разгледзець надзённыя пытанні становішча спраў у жывёлагадоўлі на праўленні гаспадаркі з прыцягненнем да адказнасці вінаватых асоб.

Аб гатоўнасці збожжаўборачных камбайнаў да жніва гаварыў намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання па механізацыі А.А.Падаляк. Райаграпрамтэхзабеспячэнне з 43-х камбайнаў адрамантавала 24, у тым ліку 19 "Донаў", рамонт чатырох у стадыі завяршэння. Складанае становішча з рамонтам тэхнікі ў калгасах імя Калініна, "Камуніст", імя Ільіча, "Беларусь", Жыліцкім сельгаскаледжы.

Завяршыў сур'ёзную размову памочнік Прэзідэнта краіны — старшы інспектар па Магілёўскай вобласці Ю.А.Кулакоўскі. Ён заўважыў, што сёлета наша вобласць знаходзіцца ў больш выйгрышным становішчы перад іншымі па кліматычных умовах, ураджай спее нядрэнны, галоўнае — своечасова і без страт убраць яго.

**Наталля ХАДАКОВА.**

**ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ**
**аб ходзе нарыхтоўкі кармоў**
**па становішчу на 20 чэрвеня г.г.**
**(у працэнтах да плана)**

| Гаспадаркі | Скошана ўсяго | Нарыхт. сена | Нарыхт. сенажу |
|---|---|---|---|
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 86,6 | 19,2 | 31,8 |
| СКП «Ніва» | 79,0 | 103,1 | 29,1 |
| СКП «Чырвоны баец» | 77,1 | 63,0 | 97,4 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 69,9 | 12,5 | 22,2 |
| «Шыннік» | 60,6 | 17,7 | 74,0 |
| імя Дзяржынскага | 58,6 | 36,2 | 15,3 |
| с-с імя Кірава | 51,1 | 26,6 | 16,6 |
| «Камуніст» | 43,0 | 16,7 | 19,2 |
| імя Калініна | 35,4 | 11,4 | - |
| «ІІІ з'езд Саветаў» | 29,1 | 15,1 | 10,0 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 29,0 | 7,1 | 17,5 |
| імя Свярдлова | 26,2 | 5,7 | 35,3 |
| «Радзіма» | 24,7 | 11,3 | - |
| «Беларусь» | 19,6 | - | 65,4 |
| імя Чапаева | 19,0 | - | - |
| імя Кірава | 16,7 | 8,6 | 11,1 |
| імя Ільіча | 2,8 | 1,2 | - |
| Усяго па раёне: | 43,5 | 19,5 | 24,9 |

**Заўвага: у калгасе імя Чапаева нарыхтавана 14% сіласу.**

## У прафсаюзах

# СУСТРЭЧА З АКТЫВАМ

У зале пасяджэнняў райвыканкама адбылася сустрэча прафсаюзнага актыву галін народнай гаспадаркі раёна са старшынёй абласнога аб'яднання прафсаюзаў А.Ц.Любчанкам, праведзеная па яго ініцыятыве. Падставай для размовы стала тое няпростае сацыяльна-эканамічнае становішча, якое склалася ў рэспубліцы і вобласці, неабходнасць кансалідацыі ўсіх прафсаюзных сіл у барацьбе за правы і інтарэсы працуючых. Пры гэтым, падкрэсліў А.Ц.Любчанка, неабходна прыкласці ўсе намаганні, каб захаваць існуючую грамадскую стабільнасць, дакладны рытм работы працоўных калектываў. Толькі гэта, нягледзячы на праблемы з выплатай зарплаты, ростам цэн, падзеннем пражытачнага ўзроўню насельніцтва, дазволіць народнай гаспадарцы развівацца далей. Старшыня абласнога аб'яднання прафсаюзаў запрасіў прысутных да шчырай размовы, абмену думкамі з тым, каб вызначыцца ў становішчы спраў на месцах, выпрацаваць праграму далейшай работы. А каб надаць дыялогу большую прадметнасць і канструктыўнасць, А.Ц.Любчанка дэталёва прааналізаваў вынікі работы галін народнай гаспадаркі вобласці за пяць месяцаў года, ускрыў прычыны спаду вытворчасці, які назіраецца асабліва ў сельскай гаспадарцы. Недабор прадукцыі тут склаў у мінулым годзе 15,5 працэнта, сёлета з пачатку года — 14,6 працэнта. Прычыны гэтага вядомыя: дрэнныя кліматычныя ўмовы. Недабор сыравіны і кармоў адмоўна паўплываў на работу перапрацоўчых прадпрыемстваў, жывёлагадоўчай галіны, прамысловасці ў цэлым. Не сталі больш багатымі і прылаўкі. Тое, што, па статыстычных дадзеных, прамысловасць летась спрацавала станоўча (106 працэнтаў у параўнанні з 1998 годам), за пяць месяцаў года забяспечана выкананне планавых паказчыкаў на 105,2 працэнта, яшчэ не сведчанне ўзрослага дабрабыту людзей. Тут якраз усё наадварот. Суадносіны заработнай платы да мінімальнага спажывецкага бюджэту замест запланаваных 140 працэнтаў сёлета склалі 111,4 працэнта (летась адпаведна 135 і 108 працэнтаў). Калі прыгадаць, што ў пачатку так званай перабудовы гэты паказчык быў 284 працэнты, становіцца відавочным, наколькі ўпаў жыццёвы ўзровень насельніцтва вобласці: раней мы на заробленыя грошы маглі ў 3 разы больш купіць тавараў і атрымаць паслуг. Рэальная заработная плата ў мінулым годзе ўзрасла ўсяго на 0,7 працэнта. Рост і так нязначны, а калі ўлічыць усе затрымкі з выплатай заробку, то ў выніку яшчэ і з мінусам застанемся. Вось і падае пакупніцкая здольнасць. Па рознічнаму тавараабароту справы яшчэ ідуць нядрэнна (да ўзроўню мінулага года — 112,4 працэнта). Але ж каля 70 працэнтаў рэальнай зарплаты траціцца на прадукты харчавання. Падобнае ў мінулыя гады нават прыгадаць складана. Калі раней можна было з 2-3 зарплат набыць прадметы доўгага карыстання, бытавую тэхніку, то зараз гэта для радавых работнікаў проста немагчыма. Не паляпшае становішча і рост тарыфаў на камунальныя паслугі, электрычнасць, паліва. Усё гэта, як і абвастрэнне дэмаграфічнай сітуацыі, калі смяротнасць у 2,1 раза перавысіла нараджальнасць, не можа пакінуць абыякавымі прафсаюзы. Сваёй галоўнай задачай на дадзеным этапе яны бачаць паслядоўную, мэтанакіраваную і жорсткую барацьбу за інтарэсы працуючых.

Прысутныя на сустрэчы выказалі шэраг заўваг і прапаноў лідэру абласнога прафсаюзнага руху. У тым ліку была ўзнята праблема неперaлічэння суб'ектамі гаспадарання членскіх узносаў. Гэта парушае эканамічную стабільнасць прафсаюзаў, робіць іх бездапаможнымі, пазбаўляе яго членаў матэрыяльнай дапамогі ў выпадку неабходнасці. Прагучала прапанова кардынальным чынам вырашыць гэтае набалелае пытанне: звярнуцца да кіраўніцтва банка з просьбай не пералічаць зарплату, пакуль не пройдуць плацяжы па членскіх узносах, як гэта робіцца ў выпадку з падаткамі і выплатамі ў фонд занятасці.

А.Ц.Любчанка адказаў на шэраг пытанняў прысутных. Зазначыў, што магілёўскія прафсаюзы на сустрэчы з Прэзідэнтам Рэспублікі А.Р. Лукашэнкам, якая адбылася 21 студзеня бягучага года, атрымалі станоўчую адзнаку. Гэта абавязвае працаваць яшчэ лепш. І, як запэўніў А.Ц. Любчанка, прафсаюзы, іх лідэры прыкладуць усе намаганні, каб апраўдаць давер працуючых, кіраўніка краіны.

**Таццяна МАІСЕЕНКА.**

# ПАКАЗАЛІ СВАЁ МАЙСТЭРСТВА

**На базе камбіната кааператыўнай прамысловасці адбыўся абласны конкурс майстроў-кандытараў хлебапякарных прадпрыемстваў. Падобнае прафесійнае спаборніцтва праводзіцца аблспажыўсаюзам адзін раз у два гады. Апошняе адбылося ў Бялынічах.**

Як адзначыў у прывітальнай прамове старшыня журы конкурсу намеснік старшыні праўлення аблспажыўсаюза па прамысловасці і транспарту С.М.Шуркала, Кіраўскі камбінат стаў сёлета месцам правядзення паказу майстэрства кандытараў невыпадкова: на яго рахунку самыя значныя аб'ёмы вытворчасці кандытарскай прадукцыі і сярод родных прадпрыемстваў вобласці, тут працуюць вопытныя, умелыя спецыялісты, майстры сваёй справы. А ўвогуле пакуль кааператараў па аб'ёмах выпуску кандытарскіх вырабаў апярэджваюць камбінаты грамадскага харчавання: у кожным раёне яны больш актыўна працуюць у гэтым напрамку. У кааператыўнай прамысловасці, заўважыў С.М.Шуркала, ёсць рэзервы, каб рухацца далей, і неабходна іх задзейнічаць.

У конкурсе прынялі ўдзел майстры-кандытары з шасці раёнаў: Бялыніцкага, Шклоўскага, Чавускага, Хоцімскага, Клічаўскага і нашага — па дзве прадстаўніцы ад кожнага. Ім неабходна было зрабіць па тры тарты масавай вытворчасці, адзін заказны торт, прызначаны для якой-небудзь урачыстай падзеі, а таксама 10 штук аднаго віду пірожнага. Патрэбна было далучыць да гэтага смачнага асартыменту муляж кандытарскага вырабу.

Загатоўкі загадзя зрабілі работніцы нашага камбіната кааператыўнай прамысловасці, потым удзельніцы "чаравалі" над імі на працягу дня, выкарыстоўваючы крэм, арэхі, іншыя кампаненты, прычым стараліся выбіраць таннейшыя, каб кошт гатовага вырабу быў не надта высокім. Разам з іншымі старанна рыхтавалі сваю прадукцыю прадстаўніцы ад нашага раёна — кандытары Ала Уладзіміраўна Бай і Алена Адамаўна Каранкевіч.

Пасля дня напружанай працы наступнай раніцай кандытарскі цэх расквітнеў крэмавымі ружамі і рамонкамі, блакітнымі азёрамі з белымі лебедзямі — усё гэта зрабілі ўмелыя рукі майстрых — здавалася, чараўнік разгарнуў тут казачную настольніцу-самабранку...

У строгага журы былі свае патрабаванні да кандытараў і іх вырабаў: улічваўся знешні выгляд удзельніц, арыгінальнасць мыслення, хуткасць выканання торта "Рамонак" і, зразумела, розныя спецыфічныя "тонкасці" кандытарскага майстэрства. Кожная прадстаўніца расказала аб рабоце свайго кандытарскага цэха, выказала меркаванні наконт мэтазгоднасці выпуску таго ці іншага вырабу.

У зале праўлення райспажыўтаварыства былі падведзены вынікі конкурсу. Першае месца дасталося ўдзельніцы з Бялыніч, затое другое заняла наша Алена Адамаўна Каранкевіч. Пераможцам былі ўручаны Ганаровыя граматы аблспажыўсаюза, каштоўныя падарункі. Не адзначанай не засталася ніводная ўдзельніца: падарункі ўручаліся за хуткасць выканання вырабаў, арыгінальнасць, самай малодшай канкурсантцы і г.д.

Зразумела, не абышлося без дэгустацыі тартоў і пірожных, прычым кандытары падышлі да гэтай працэдуры з прафесійнага пункту гледжання: выказвалі заўвагі, што добра ў прадукцыі іх сяброўак, а што не вельмі. Удзельніцы конкурсу выказалі шчырую ўдзячнасць старшыні райспажыўтаварыства П.Л.Целяховічу, дырэктару камбіната кааператыўнай прамысловасці М.М.Антановічу, загадчыцы вытворчасці Г.І.Бяляўскай, усім работніцам кандытарскага цэха нашага камбіната за цёплы прыём, дапамогу, сяброўскую атмасферу ў час правядзення прафесійнага спаборніцтва.

А прадукцыю канкурсантак мелі магчымасць пакаштаваць і кіраўчане: яна адразу ж паступіла ў продаж.

**Наталля ХАДАКОВА.**



**На здымку:** ***удзельніцы конкурсу ад нашага камбіната кааператыўнай прамысловасці А.У.Бай і А.А.Каранкевіч побач са сваімі цудоўнымі вырабамі.***

**Фота Івана Лукановіча.**

# ІПАТЭЧНАЕ КРЭДЫТАВАННЕ

На працягу 2000-2001 гадоў у Беларусі будзе поўнасцю распрацавана заканадаўчая база іпатэчнага жыллёвага крэдытавання, а яе ўкараненне пачнецца ў 2002 годзе.

Неабходнасць у новым механізме фінансавання звязана з тым, што ў апошнія гады ў рэспубліцы значна скарацілася доля сродкаў, якія выдзяляюцца з бюджэту на будаўніцтва жылля. Разам з тым, вопыт паказаў, што існуючае льготнае крэдытаванне жыллёвага будаўніцтва не можа задаволіць попыт грамадзян, а таксама прыводзіць да абясцэньвання грошай пры іх вяртанні на працягу доўгага часу. Новая ж канцэпцыя прадугледжвае зусім новы падыход, бо крэдыты тут мяркуецца выдаваць пад заклад нерухомай маёмасці, што забяспечвае высокую ступень абароненасці ад інфляцыі. Пры гэтым сума крэдыту складае не больш як 70 працэнтаў рыначнага кошту закладзенай маёмасці.

### * *Запытвайце — адказваем*

# *ПРОЗВІШЧА ДЗІЦЯЦІ*

**"Пасля скасавання шлюбу я ўзяла сваё дашлюбнае прозвішча. Хацела, каб гэтае прозвішча насіў і мой сын. Ці магчыма такое?"**

**Пракаменціраваць гэтае пытанне нашай чытачкі кіраўчанкі С. мы папрасілі загадчыцу раённага аддзела ЗАГСа Марыю Іванаўну ЯЗЕРСКУЮ:**

— Спыненне шлюбу паміж бацькамі або прызнанне шлюбу несапраўдным не з'яўляецца падставай для змянення прозвішча дзіцяці.

Калі адзін з бацькоў, у якога дзіця засталося пражываць пасля скасавання шлюбу або прызнання яго несапраўдным ці пасля ўступлення ў новы шлюб, жадае прысвоіць дзіцяці новае прозвішча, орган апекі мае права дазволіць гэта, зыходзячы з інтарэсаў непаўналетняга.

У такім жа парадку вырашаецца пытанне аб змяненні прозвішча дзіцяці, у запісе акта аб нараджэнні якога звесткі ўнесены па сумеснай заяве бацькоў, устанаўленні бацькоўства ў судовым парадку і калі бацькоўства не ўстаноўлена, а таксама ў выпадку пазбаўлення аднаго з бацькоў яго бацькоўскіх правоў.

Змяненне прозвішча дзіцяці, якое дасягнула 10 гадоў, ва ўсіх выпадках робіцца толькі з яго згоды, якая выяўляецца органамі апекі.

Аднаму з бацькоў, чыё прозвішча носіць дзіця, паведамляецца аб узбуджэнні хадайніцтва аб змяненні прозвішча дзіцяці, і яго думка разам з іншымі акалічнасцямі ўлічваецца органамі апекі пры вырашэнні пытання.

Прозвішча дзяцей можа быць зменена пры ўстанаўленні бацькоўства і ўсынаўленні.

Перамена прозвішча абодвума бацькамі цягне за сабой змяненне прозвішча дзіцяці, якое не дасягнула 16 гадоў.

# ЛЮДЗІ ЗЯМЛІ МАЁЙ

Сёння, калі ў большасці сем'яў кожнаму рублю лік ведаюць, многія займаюцца агародніцтвам, трымаюць падсобную гаспадарку, бо хто не гультайнічае, дбае, той і мае.

Муж і жонка Елісеенкі з вёскі Букіно даўно ўжо на заслужаным адпачынку. Аднак склаўшы рукі не сядзяць. Гаспадар дома — Уладзімір Уладзіміравіч, родам з Букіно. Тут вырас, працаваў, тут і век свой дажываць будзе. На роднай зямлі, у бацькавай хаце. Праўда, бацькавым дом Елісеенкаў толькі лічыцца, бо на справе ад той спадчыны толькі сцены засталіся: у 1937 годзе быў пажар, і дом Елісеенкаў пацярпеў разам з двума суседскімі. Яго так-сяк аднавілі, а гэта ўжо потым малады гаспадар дабудоўваў, расшыраў, добраўпарадкоўваў. Тады з'явіліся і дыхтоўныя хлявы, лазня, гаспадарчыя пабудовы.

У вёсцы дом Елісеенкаў заўсёды прыцягваў увагу асаблівай акуратнасцю, мноствам кветак у палісадніку, гасціннасцю гаспадароў. Напэўна таму летнімі вечарамі на лавачцы каля дома збіралася нямала людзей, каб пагаварыць, абмяняцца навінамі, абмеркаваць надзённыя справы.

Маладым бадзёрым салдатам вярнуўся Уладзімір пасля службы ў арміі ў родную вёску. Халасцякаваў нядоўга і ў хуткасці ажаніўся на сціплай вясковай дзяўчыне Галіне. Ведаў яе яшчэ да службы — зусім дзяўчо была, а вунь, паглядзі, як расцвіла! Прывёў маладую жонку ў бацькаву хату. Нявестка трапілася памяркоўная, паслухмяная, старанная, любая работа ладзілася ў яе спрытных руках. Бацькам Галіна даспадобы прыйшлася, палюбілі яе, як родную. У згодзе са свёкрам і свякрухай пражылі нямала гадоў.

Працаваць Галіна ўладкавалася на мясцовую ферму. Няпроста было, але лёгкіх шляхоў не шукалі, імкнуліся тады працаваць старанна, на сумленне. І Галіна хутка стала дабівацца добрых паказчыкаў, выйшла ў перадавікі. Муж таксама на ферме працаваў — малако адвозіў. А дома клопатаў не менш было: трое сыноў-малайцоў падрасталі, пастаяннай увагі патрабавалі агарод, хатняя гаспадарка.

Сыны ў Елісеенкаў выдатныя. Старэйшы — Аляксандр закончыў вучылішча абутнікоў, жыве і працуе ў Бабруйску, сярэдні сын Сяргей — афіцэр, былы пагранічнік, прайшоў Афганістан, працуе ў міліцыі. У Кіраўску жыве і працуе малодшы сын Ігар.

Добра, заможна жылі ў 60-я гады рассветаўцы. Быў дастатак у сям'і Елісеенкаў, дзе абодва: і муж, і жонка — старанна і сумленна працавалі ў калектыўнай гаспадарцы. Памятным стаў для сям'і дзень 22 сакавіка 1966 года, калі прыйшла вестка аб узнагароджанні Галіны Пятроўны зоркай Героя Сацыялістычнай Працы. З вялікім хваляваннем, без ганарлівасці, а з адказнасцю і імкненнем працаваць яшчэ лепш успрыняла простая сялянка высокую ўзнагароду Радзімы.

Ішоў час, цяжкая праца на ферме стала не па сілах Галіне Пятроўне: пачалі балець суставы на нагах. Прыйшлося мяняць работу. Працавала загадчыцай ясляў, потым — сталовай, і ўсюды аддавала сябе справе спраўна. Гэтыя рысы самаадданасці, служэнню Радзіме на любым участку работы характэрныя для простых працаўнікоў. Гэтыя людзі — залаты фонд адыходзячага стагоддзя, невычэрпная крыніца народнай славы.

Не ведаў адпачынку, старанна працаваў усё жыццё, ашчадна ставіўся да замацаванай тэхнікі Уладзімір Уладзіміравіч. І хаця не дасягнуў такіх вышынь, як жонка, ганарыцца тым, што і на пенсію пайшоў са сваёй машыны, якая доўгі час служыла гаспадарцы.

Зараз муж і жонка Елісеенкі ўжо састарэлыя людзі. Зразумела, старасць — не радасць, але і моцна сумаваць мілым тату з мамай, любімым дзядулю з бабуляй не даюць дзеці і ўнукі. Часта наведваюць, ва ўсім дапамагаюць, саграваючы сэрцы старых дабрынёй і пяшчотай, шчырай любоўю.

**Людміла ЛУКАНОВІЧ.**

## Равеснікі



***Для навучэнца 31 "А" групы Дзмітрыя Тараймовіча вучоба ў Жыліцкім сельскагаспадарчым каледжы — нешта накшталт сямейнай традыцыі. У свой час гэтую навучальную ўстанову закончыў яго бацька, нядаўна — старэйшы брат, які, дарэчы, зараз працягвае сваю вучобу ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Аб прадаўжэнні вучобы марыць і Дзмітрый. Для гэтага ёсць усе падставы: юнак выдатна займаецца ў каледжы, актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, ва ўсіх праводзімых мерапрыемствах. А яшчэ захапляецца спортам, аддаючы перавагу армрэслінгу, якім займаецца пад кіраўніцтвам свайго трэнера М.А.Міхайлюка.***

***Дзмітрый — будучы аграном. Да вывучэння асноў і ўсіх тонкасцей сваёй спецыяльнасці ставіцца вельмі адказна, а таму ў яго заліковай кніжцы адны пяцёркі. У гэтыя дні для трэцякурснікаў пачалася адказная і цікавая пара вытворчай практыкі, калі тэарэтычныя веды, атрыманыя на працягу года, знойдуць сваё прымяненне на справе.***

***На здымку: Дзмітрый Тараймовіч.***

**Фота Івана Лукановіча.**

# ДЛЯ РАЗВІЦЦЯ МАЛОГА БІЗНЕСУ

У мэтах выканання раздзела 6 "Асноўных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996-2000гг." і адпаведных даручэнняў урада рэспублікі па актывізацыі прыцягнення замежных інвестыцый для развіцця малога і сярэдняга бізнесу, аказання дзяржаўнай падтрымкі суб'ектам малога прадпрымальніцтва даводзім да ведама аб умовах фінансавання інвестыцыйных праектаў за кошт сродкаў абласнога, рэспубліканскага бюджэтаў і фонду падтрымкі экспарту.

Прадастаўленне фінансавай дапамогі за кошт сродкаў абласнога бюджэту ажыццяўляецца на зваротнай і льготнай асновах праз упаўнаважаныя банкі, з якімі абласны тэрытарыяльны камітэт прадпрымальніцтва і інвестыцый заключае дагаворы. Суму, формы і ўмовы прадастаўлення рэсурсаў, тэрмін іх пагашэння вызначае Савет па развіццю прадпрымальніцтва аблвыканкама.

Фінансавая дапамога прадастаўляецца ў выглядзе крэдытных рэсурсаў, частковай кампенсацыі расходаў суб'ектам малога прадпрымальніцтва па выплаце працэнтаў за карыстанне банкаўскімі крэдытамі, накіраванымі на фінансаванне інвестыцыйных праектаў, а таксама расходаў па выплаце лізінгавых плацяжоў па дагаворах фінансавай арэнды (лізінга), у часці аплаты банкаўскіх працэнтаў за карыстанне лізінгадавальнікам пазыковымі сродкамі на набыццё аб'екта лізінгу. Крэдыты, накіраваныя на рэалізацыю інвестыцыйных праектаў суб'ектаў малога прадпрымальніцтва, выдаюцца па стаўцы, не перавышаючай 25 працэнтаў базавай стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка РБ. Велічыня частковай кампенсацыі суб'ектам малога прадпрымальніцтва расходаў па выплаце працэнтаў за карыстанне банкаўскімі крэдытамі ўстанаўліваецца ў памеры не больш 0,5 стаўкі рэфінансавання Нацбанка рэспублікі.

У цяперашні час Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў і яго Магілёўскі філіял працягваюць ажыццяўляць крэдытаванне вытворчых і камерцыйных праектаў, у тым ліку і на ўмовах фінансавага лізінгу. Фонд прадастаўляе мікракрэдыты на платнай аснове на прынцыпах матэрыяльнай забяспечанасці, мэтавай накіраванасці, тэрміновасці і зваротнасці, у безнаяўнай форме ў строгай адпаведнасці з крэдытным дагаворам. Плата за карыстанне пры гэтым не перавышае стаўку рэфінансавання Нацыянальнага банка.

Пазычальнікамі могуць выступаць юрыдычныя асобы рэспублікі і індывідуальныя прадпрымальнікі. Максімальны памер мікракрэдыту складае 2500 мінімальных заработных плат і прадастаўляецца на тэрмін ад 30 дзён да года. Характэрнай асаблівасцю мікракрэдытавання з'яўляецца тое, што пазычальнікі, якія своечасова разлічыліся з Фондам па сваіх абавязацельствах, могуць атрымаць новы крэдыт да 5000 мінімальных заработных плат па спрошчанай працэдуры афармлення неабходных дакументаў.

У якасці забеспячэння выдаваемых крэдытаў можа выступаць як асабістая ўласнасць індывідуальных прадпрымальнікаў і юрыдычных асоб, так і маёмасць даручальнікаў. Беларускі фонд падтрымкі прадпрымальнікаў і яго філіял ажыццяўляюць дапамогу ў распрацоўцы інвестыцыйных бізнес-планаў, праводзячы кансультацыі па арганізацыі і вядзенню бізнесу ў рэспубліцы.

Крэдыты са сродкаў фонду прадастаўляюцца АКБ "Белзнешэканомбанк" прадпрыемствам-пазычальнікам на ўмовах, устаноўленых рашэннем Камісіі па падтрымцы экспарту пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Рашэнне прымаецца пасля разгляду бізнес-планаў прадпрыемстваў-экспарцёраў і заключэнняў па іх, прадастаўляемых адпаведнымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, аблвыканкамам, міністэрствамі эканомікі, фінансаў, АКБ "Белзнешэканомбанк".

У цяперашні час прынята рашэнне аб захаванні ўмоў аказання дзяржаўнай падтрымкі суб'ектам малога прадпрымальніцтва ў рэалізацыі інвестыцыйных праектаў за кошт цэнтралізаваных інвестыцыйных рэсурсаў — дзяржаўных капітальных укладанняў у адпаведнасці з пастановай урада ад 22 верасня 1998 года "Аб конкурсным размяшчэнні цэнтралізаваных інвестыцыйных рэсурсаў". Парадак выдзялення сродкаў з рэспубліканскага бюджэту на фінансаванне дзяржаўных капітальных укладанняў вызначаны адпаведнай пастановай урада.

Дзяржаўная падтрымка за кошт цэнтралізаваных інвестыцыйных рэсурсаў аказваецца юрыдычным і фізічным асобам, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы: пры ўмове, што ў рэалізацыю пераможшага ў конкурсе інвестыцыйнага праекта імі ўкладваецца не менш 20 працэнтаў уласных сродкаў ад поўнага кошту дадзенага праекта.

Бюджэтныя сродкі выдзяляюцца на вызначаны тэрмін, зыходзячы з нарматыўных тэрмінаў акупнасці. Пры гэтым тэрмін прадастаўлення сродкаў не павінен перавышаць 5 гадоў з дня першай выдачы і да поўнага іх вяртання. Працэнтная стаўка за карыстанне бюджэтнымі сродкамі бярэцца ў памеры 0,5 стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка. Конкурсны адбор інвестыцыйных праектаў ажыццяўляецца Камітэтам па інвестыцыях пры Міністэрстве эканомікі. Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па адрасу: г.Магілёў, вул.Ленінская, 61, ці па тэлефонах: 22-45-88 (Магілёўскі абласны тэрытарыяльны камітэт прадпрымальніцтва і інвестыцый); 22-61-30, 22-64-86 (Магілёўскі філіял Беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў).

**Рыгор ДАЙНЕКА,**
**намеснік старшыні райвыканкама.**

# ПРОГРАММА ТЕЛЕВИДЕНИЯ



## ПЯТНИЦА, 23 июня

### БТ

**6.30, 7.10** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.35** Новости. **8.10** Док. экран. "Этьен. Возвращение". **8.40** Потребительская корзина. **9.10** "С роботами не шутят". Худ. фильм. **10.15** Мультиклуб. **11.10** "Все мои дети". Телесериал. **11.55** "Премьер-парад". **12.20** Сделано в Беларуси. **12.35** Усадьба. **13.15** "Анютины глазки и барские ласки". Худ. фильм. **15.10** "Таинственный мир Алекс Мак-2". **15.35** Мультфильм. **15.45** Регион. **16.10** "Рискверсия". **17.10** "Марсово поле". **17.35** Наш край. **17.55** Сериал "Сити". **18.15** "Москва — Минск". **18.40** МСН. **19.20** Премьер-парад. **19.50** "Все мои дети". Телесериал. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Открытие Международного фестиваля "Могилевская музыкальная весна-2000". **0.10** Бездельник. **0.45** Криминальная хроника.

### ОРТ

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20** Новости. **8.20** "Вавилонская башня". Сериал. **9.20** "Каламбур". **9.50** В мире животных. **10.30** Сериал "Лето наших надежд". **13.30** "Вместе". **14.20** Мультазбука. **14.45** КВН-2000. **17.30** Джентльмен-шоу. **17.55** Человек и закон. **18.40** Поле чудес. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Коломбо. "Конспираторы". **22.35** Песня года. **23.35** Ж.Биссет в фильме "Богатые и знаменитые".

### "РОССИЯ"

**7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.20, 1.15** "Дежурная часть". **7.35** Семейные новости. **8.35** Мультфильм. **8.45** "Москва — Минск". **9.10** "Цыганка". **10.05** "Санта-Барбара". **16.35** "Тайны тысячелетия". **17.25** Сериал "Монахини в бегах". **18.25** "Городок". **19.45** Криминальный боевик "Мафия бессмертна". **21.35** "Панорама". **23.15** Фильм. "Луна-парк". (Россия — Франция).

### "КУЛЬТУРА"

**11.30, 13.30** Новости культуры. **11.40** "Небесный тихоход". Худ. фильм. **12.55** "Поезд на третьем пути". Дон Аминадо. **13.45** Мультфильмы. **14.15** "Время музыки". Тележурнал. **14.40** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** "Чародей. Страна великого дракона".

### "МОГИЛЕВ-1"

**6.30, 7.10** "Ранехонько!" **7.00** "Навіны раніцы". **8.05** "Саманта". Сериал. **8.55** "Сейлормун: Луна в матроске". Мультсериал. **9.20** "Пацаны". Худ. фильм. **16.30** "Из жизни женщин". **17.00** "За гранью возможного". Телесериал. **17.45** Мультфильм. **18.00, 20.05** "Праздник в Вашем доме". **19.20** Телемагазин. **19.30** Пунктир. **20.55** "Только ты". Телесериал. **21.40** Астро-дайджест. **21.45** Рейтинг-фильм.

## СУББОТА, 24 июня

### БТ

**7.00** Доброе утро, Беларусь! **8.05** Сущность. **8.30** Усадьба. **9.00, 15.00, 19.00** Новости. **9.10** Потребительская корзина. **9.25** "Сегодня с вами..." **9.55** "Все нормально, мама!" **10.25** "Одиссея команды Кухто". **10.55** Компьютерный полигон. **11.15** Вершина мира. **11.40** Столица. **12.10** Сельчане. **12.35** Книгосбор. **13.10** Сфера. **13.40** Око. **14.00** МСН. **14.15** Сделано в Беларуси. **14.30** Познай себя. **15.15** Мультфильмы. **16.10** Конный спорт. Международный турнир по троеборью. **16.30** Олимп. **17.00** Ток-шоу "Будни". **17.45** "Купаловцы: взгляд через время". Телеочерк. **17.55** "Земляки". **19.15** Из достоверных источников. **19.35** Песню берите с собой. **20.25** "Багряная трава". Худ. фильм. **21.00** Панорама. **21.50** "Христофор". **22.10** "Мое дело — телячье". Худ. фильм. **23.40** Премьера песни. **23.50** Видимо-невидимо.

### ОРТ

**7.00, 9.00, 14.00, 17.00** Новости. **7.10** Слово пастыря. **7.25** "Все путешествия команды Кусто". **8.15** "Ералаш". **8.25** Играй, гармонь любимая! **9.10** Смак. **9.30** Док. детектив. Торговцы живым товаром. Дело 1999 года. **10.00** "С легким паром!" **10.30** Утренняя почта. **11.00** Остросюжетный фильм "Отряд". **13.00** В мире животных. **13.45** История одного шедевра. Русский музей. **14.10** "Горец". **15.05** Седьмое чувство. **15.45** "Время футбола": Евро-2000. **16.15** Детектив-шоу. **17.15** Экстренный вызов. Спасатели. **17.45** "Женские истории". **18.20** Комедия "Будьте моим мужем". **20.00** Программа Сергея Доренко. **21.00** Футбол. Чемпионат Европы. 1/4 финала. **23.10** Коллекция Первого канала. "Иисус Христос — суперзвезда".

### "РОССИЯ"

**7.00** Фильм для детей "Радуга" (США). **8.30** Почта РТР. **9.00** Доброе утро, страна. **9.45** "Сто к одному". **10.35** Сам себе режиссер. **11.05** "Друзья-II". Сериал. **11.35** "Золотой ключ". **12.00, 19.00** Вести. **12.20** Федерация. **13.10** Мелодрама "Коварный обольститель" (Индия). **15.10** Планета Земля. **16.05** "Вечера в Политехническом". **17.05** Моя семья. **18.05** "Два рояля". **19.45** Аншлаг и К$^{0}$. **20.50** Бал выпускников-2000. **21.30** Футбол. Чемпионат Европы-2000. 1/4 финала. **23.45** Чемпионат Европы по футболу-2000. Итоги дня.

### "КУЛЬТУРА"

**9.05** "Аистенок". **9.30** "Российский курьер". **10.10** "Кино: вчера и всегда". **10.35** "Дамский портной". Худ. фильм. **12.00** "Микрофон включен". **12.25** Мультфильм. **12.35** Графоман. **13.00** Парижский журнал. **13.30** Новости культуры. **13.45** "Сыновья и любовники". Телесериал. **14.40** Мой цирк.

### "МОГИЛЕВ-1"

**15.00** "Птицы над городом". Фильм — детям. **16.20, 18.20** "Праздник в Вашем доме". **17.30** "Эко-Пойнт". Телесериал. **19.30** Телемагазин. **19.40** "Девять месяцев". Комедия. **21.10** Видеодром. **21.30** "Всё то, о чем мы так долго мечтали". Боевик. **23.10** Астро-дайджест. **23.15** "Пляжная академия". Комедия.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 25 июня

### БТ

**7.00** Доброе утро, Беларусь! **8.00** Мультсериал. **8.30** Здоровье. **9.00, 15.00** Новости. **9.15** Потребительская корзина. **9.30** "Вас вызывает Спортландия". **10.20** Туробъектив. **10.45** "Все нормально, мама!" **11.15** "Премьер-парад". **11.45** Арсенал. **12.10** Золотые ключи. **12.40** "На волне взаимопонимания". **13.30** Сериал "На гребне волны". 6-я серия. **14.15** МСН. **14.30** "Сегодня с вами..." **15.15** Белорусский дом. **15.45** "Наши песни". **16.15** Теленавигатор. **16.40** Банка комиксов. **17.10** Худ. фильм "Ты у меня одна". **18.55** "Судьба человека". **19.30** Стадион. **20.00** Резонанс. **20.45** Ток-шоу "Карамболь". **21.20** Комедия "Добрый человек в Африке". **22.50** Суперобраз XXI века. **23.20** Столичный хит. **0.00** Автопарк.

### ОРТ

**7.00, 9.00, 14.00, 17.00** Новости. **7.10** Армейский магазин. **7.40** "Дисней-клуб": "Аладдин". **8.10** Утренняя звезда. **9.10** "Непутевые заметки". **9.30** Пока все дома. **10.05** "Альф". **10.35** Здоровье. **11.05** Худ. фильм "Ожог". **13.15** Клуб путешественников. **14.10** "Горец". **15.05** Возможно все! **15.25** "Дисней-клуб". **16.15** "Серебряный шар". **17.15** "Ералаш". **17.25** Смехопанорама. **18.05** Боевик. "Большой переполох в маленьком Китае". **20.00** Время. **21.00** Футбол. Чемпионат Европы. 1/4 финала. **23.05** Фильм "Агент Макинтош".

### "РОССИЯ"

**7.00** Мультфильм. **7.20** Папа, мама, я — спортивная семья. **8.20** "Устами младенца". **8.55** Доброе утро, страна. **9.30** "Аншлаг" и К$^{0}$. **10.30** "Городок". **11.00** Русское лото. **11.40** Мультфильмы. **12.00** Вести. **12.20** Парламентский час. **13.15** "Старая квартира". **14.15** Диалоги о животных. **15.15** Премьера док. фильма "Калмыцкий хронотоп". **16.00** Пресс-клуб. **17.00** "Международная панорама". **17.45, 19.55** Экранизация романа Д.Стил "Зоя" (США). **19.00** Зеркало. **21.30** Футбол. Чемпионат Европы-2000. 1/4 финала. **23.45** Чемпионат Европы по футболу-2000. Итоги дня. **0.00** Фантастический фильм "Газонокосильщик".

### "КУЛЬТУРА"

**9.05** "Аистенок". **9.30** Мультфильм. **10.40** Экспедиция "Чиж". **11.05** "Консилиум". **11.35** "Романса трепетные звуки". Док. фильм. **12.50** Мультфильм. **13.00** Дворцовые тайны. **13.30** Новости культуры. **13.45** "Сыновья и любовники". Телесериал. **14.40** Отечество и судьбы. "Лансере".

### "МОГИЛЕВ-1"

**15.00** "Скарбы". "Ганчарства на Магілёўшчыне". **15.30** Мультсериал. **16.20** Фильм-детям "К концу времен". **17.50** "Блеф-клуб". **18.35** "Эко-Пойнт". Телесериал. **19.20** Телемагазин. **19.30** "Всадник багряных прерий". Вестерн. **21.05** Астро-дайджест. **21.10** "Однажды вечером". Шоу. **22.00** "Чужая свадьба". Мелодрама.

